*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*Францішак БАГУШЭВІЧ*




# НАША СЛОВА

Штотыднёвая газета (Выходзіць з сакавіка 1990 г.) ◈ 27(83) ◈ 8 ліпеня 1992 г. ◈ Кошт 20 кап. (Па падпісцы — 10 кап.)

*Янка КУПАЛА*

## Беларушчына

*Сотні лет, непрыяцелем-братам прыбітая,*
*Зарастаючы зеллем чужым, як лазой сенажаць,*
*Ты ляжала няпамяці пылам пакрытая,*
*А народ твой быў змушан маўчаць і табой пагарджаць.*

*І круцілі цябе, як каму падабалася,*
*Кожны строіў, наводзіў цябе на свой строй,*
*на свой лад;*
*Ажно часам жальба, як кляцьба, разлягалася*
*Ды нячутай ляцела, ўміраючы, ў грудзі назад.*

*Спаў народ, і ты спала, і ворагі верылі,*
*Што ніхто не разбудзіць цябе, што заснула навек.*
*І дзялілі цябе, ўсімі мерамі мералі,—*
*Што памерла ўжо ты,— не адзін так казаў чалавек.*

*Час ішоў. К жыццю новаму клікі пачуліся;*
*Усе народы паўсталі на бітву за права свае.*
*Ты — як спала — ўскрасла, твае дзеці прачнуліся,*
*Твой народ, ты сама ўсталі новае строіць жыццё.*

*І цяпер, хоць прыблудаў даносы ў ход пушчаны,*
*Хоць пад права твае падрываецца шмат хто,*
*як крот,—*
*Як жыла і жывеш, будзеш жыць, Беларушчына:*
*Зразумей і успомніў цябе твой мільённы народ.*

*Сціхнуць віхры, заціхне пара непагодная,*
*Сілы грозныя ўстануць, акрэпнуць к другому жыццю;*
*Панясуцца, як звон, песні вольныя, родныя,*
*Апяваючы долю, нядолю, народзе, тваю.*

*1908 г.*

*Канферэнцыі!*

## Ці не народзіцца новая хваля беларускай эміграцыі?

Нельга было без хваляваня слухаць выступаючых на прэс-канферэнцыі перад журналістамі народных дэпутатаў Рэспублікі Беларусь Сяргея Навумчыка і Віктара Кучынскага. Толькі што яны вярнуліся з Азербайджана, дзе пабывалі ў якасці наглядальнікаў за ходам выбараў Прэзідэнта. Акрамя таго, беларускія парламентарыі дэталёва вывучылі становішча нашых землякоў-ваеннаслужачых.

Наўздзіў трывожная сітуацыя склалася ў Нахічэванскім гарнізоне. Трыццаць шэсць афіцэраў звярнуліся з лістом да беларускага парламента. Расказалі пра тое, што зараз, згодна з дырэктыўным дакументам, яны служаць Расіі, хаця і знаходзяцца на азербайджанскай зямлі. Колькі ні спрабавалі нашыя суродзічы звяртацца да кадравых вайсковых органаў у прыватным парадку — нічога не атрымлівалася. Большасць афіцэраў адправілі свае сем'і на Беларусь. Самі ж застаюцца ў ролі заложнікаў, каго лёс можа паставіць на адзін ці другі бок барыкады. Крый Божа, каб такога не здарылася!

А што дзеля гэтага робіцца ў нас, на Беларусі, у роднай старонцы? Вось, да прыкладу, камандзір Нахічэванскай дывізіі генерал-маёр Расціслаў Слабашэвіч. Чатырнаццаць гадоў службы і жыцця аддадзена Закаўказзю. За гэты час вывучыў тры мовы — армянскую, азербайджанскую, грузінскую. Напісаў запыт у Вярхоўны Савет РБ, ці можна яму вярнуцца служыць на Радзіму. З парламента просьбу перадалі ў акругу (Міністэрства абароны яшчэ не было). Генералу адмовілі. Выходзіць, што над лёсам генерала ніхто і не задумаўся.

А вось ці задумаюцца зараз? Цяпер ужо над лёсамі трыццаці шасці землякоў...

Як на мой погляд, то ўсур'ёз займацца гэтай справай павінна было б у першую чаргу Міністэрства абароны Рэспублікі Беларусь. Такога ж, на жаль, пакуль што не здарылася. І ці здарыцца калі-небудзь?

Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.

## Каб не дажыць да анексій

Стар. 2

✦✦✦✦✦

## Беларусі ўвогуле не існавала для палякаў

Стар. 3

✦✦✦✦✦

## Тры гады катаргі за спачуванне

Стар. 4.



НА ЗДЫМКУ: васьмікласнік СШ № 67 г. Менска Аляксей Буранка — старанны і руплівы ў справе авалодання роднай мовай. Хлопчык цікавіцца ўсімі кнігамі, якія звязаны з беларушчынай. Падчас правядзення тэлемарафона «Выратуем дзяцей» Аляксей набыў штогоднік «Бацькаўшчына».

Фота Міхася ХАМЦА.

14—15 мая ў Брэсцкім педагагічным інстытуце імя А. С. Пушкіна прайшлі рэспубліканскія навуковыя чытанні па беларусазнаўству, падчас якіх быў праведзены круглы стол «Нацыянальная школа: шляхі даследавання і вырашэння праблем». Матэрыялы чытанняў будуць надрукаваны ў зборніку «Адукацыя. Гісторыя. Мова». Прынята таксама рашэнне звярнуцца ў Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь з прапановай уключыць курс беларусазнаўства ў навучальныя планы універсітэтаў і пэдінстытутаў, пачынаючы з 1992—1993 гг. Чытанні вырашана зрабіць традыцыйнымі. Наступныя — праз год, у маі.

Ігар БАРАНОЎСКІ.

## Поступ тыдня

**АДБЫЛОСЯ ПЛАНАВАЕ ПАСЯДЖЭННЕ САВЕТА БЯСПЕКІ БЕЛАРУСІ**, якое вёў Старшыня Вярхоўнага Савета рэспублікі С. Шушкевіч. Былі разгледжаны пытанні ваеннай дактрыны РБ на пераходны перыяд, канцэпцыя нацыянальнай бяспекі.

***2 ЛІПЕНЯ У БЕЛАРУСКІМ ДЗЯРЖАЎНЫМ АКАДЭМІЧНЫМ ТЭАТРЫ ІМЯ ЯНКІ КУПАЛЫ АДБЫЛОСЯ СВЯТКАВАННЕ 110-АЙ ГАДАВІНЫ З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ НАРОДНАГА ПАЭТА БЕЛАРУСІ ЯНКІ КУПАЛЫ.** На ўрачыстасці аматары тэатра ўбачылі славутую п'есу «Тутэйшыя».*

*4 ліпеня святкаванне юбілею Янкі Купалы прайшло на яго радзіме — у Вязынцы.*

**У НЬЮ-ЙОРКСКАЙ ШТАБ-КВАТЭРЫ АРГАНІЗАЦЫІ АБ'ЯДНАНЫХ НАЦЫЙ** на сесіі праўлення Дзіцячага фонду ААН (ЮНІСЕФ) выступіў прадстаўнік Беларусі Георгій Ягораў, які яшчэ раз звярнуў увагу міжнароднага супольніцтва на вельмі цяжкую, надзвычайную сітуацыю, у якой аказаліся дзесяткі тысяч беларускіх дзяцей і жанчын у выніку чарнобыльскай катастрофы. Хочацца спадзявацца, што прыйдзе час і нас пачуюць і дапамогуць па-сапраўднаму.

***ПАМІЖ РАСІЙСКАЙ ФЕДЭРАЦЫЯЙ І РЭСПУБЛІКАЙ БЕЛАРУСЬ ПАДПІСАНЫ ПРАТАКОЛ АБ УСТАНАЎЛЕННІ ДЫПЛАМАТЫЧНЫХ ЗНОСІН.***

**АДБЫЎСЯ ПЕРШЫ ВЫПУСК У АКАДЭМІІ КІРАВАННЯ САВЕТА МІНІСТРАЎ РБ.**

**У МЕНСКУ АДКРЫЎСЯ МІЖНАРОДНЫ КІРМАШ «УСХОД—ЗАХАД—ПОЎНАЧ—ПОЎДЗЕНЬ»**, у якім бяруць удзел фірмы з Нямеччыны, Польшчы і краін — членаў СНД.

***ПЕРШЫ НАМЕСНІК СТАРШЫНІ САВЕТА МІНІСТРАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ МІХАСЬ МЯСНІКОВІЧ ПРЫНЯЎ У ДОМЕ УРАДА** Старшыню праўлення аўтамабільных заводаў «Фольксваген» спадара Даніэля Гедзвара. Была абмеркавана перспектыва сумеснай вытворчасці аўтобусаў.*

*З рэдакцыйнай пошты*

# АБМЯРКОЎВАЕМ ПРАЕКТ КАНСТЫТУЦЫІ

На палітычным гарызонце нашай рэспублікі ўсё яшчэ досыць туманна, і ў гэтым тумане вершыцца шмат спраў, якія не спрыяюць нацыянальнаму суверэнітэту. Выразна праглядваюцца сілы тармажэння. Парасткі новага і перспектыўнага заглушваюцца ўкаранелым старым пустазеллем. Цяпер ужо многім зразумела: калі захоўваць стары адміністрацыйны ўклад і формы, а да ўсяго — кампартыйныя кадры, новае ды прагрэсіўнае не пабудаваць. Ні для каго не сакрэт і тое, як тармозяць рух да суверэнітэту старыя абласныя структуры. Гэты прамежкавы апарат не толькі праглынае значную частку бюджэту, тармозіць аператыўнае кіраванне дзяржаўнымі працэсамі, але і адмоўна ставіцца да беларушчыны.

Дык ці не настаў час перагледзець адміністрацыйны падзел Беларусі і звярнуцца да гістарычнага вопыту? У нас стагоддзямі існавалі паветы, якія складваліся на грунце эканамічнага і гістарычнага развіцця і няблага кіраваліся, хоць не было ні сучаснай тэхнікі, ні сродкаў сувязі. Можна б увесці акругі і падпарадкаваць непасрэдна цэнтральнай уладзе.

Уздымаць гэтыя пытанні важна менавіта цяпер, калі фарміруюцца асновы новай Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь. Прапанаваны праект гэтага Асноўнага Закона не ўлічвае, на жаль, ніякіх змен у гэтым накірунку, а значыць, не імкнецца палепшыць унутрыдзяржаўную сітуацыю.

**Васіль СУПРУН,**
**пенсіянер.**

г. Слонім.

# Пададзімся зноў у «малодшыя браты»?

Управа БНФ «Адраджэнне» распаўсюдзіла заяву, у якой гаворыцца, што народ Беларусі праз сродкі масавай інфармацыі рыхтуюць да думкі пра непазбежнасць вайсковага саюзу з Расіяй. Пры гэтым спасылаюцца на неабходнасць ахаваць ад беспрацоўя работнікаў беларускіх прадпрыемстваў вайскова-прамысловага комплексу. Паўстае рэальная пагроза нейтралітэту Беларусі, грамадзянскай стабільнасці і самой незалежнасці нашай краіны.

Ператварэнне Расіі з імперыі ў дэмакратычную дзяржаву прыпынілася. Яе палітыка зноў адкрыта скіроўваецца на аднаўленне імперыі, на тэрытарыяльныя захопы. Апошнія захады Расіі супраць суверэнных Малдовы і Грузіі прадэманстравалі свету незнішчальнасць імперскіх настрояў гэтай краіны. У правакацыйных заявах расійскіх лідэраў, у расійскіх сродках масавай інфармацыі «акупацыяй» называюцца дзеянні войска незалежнае дзяржавы па абароне ўласнай тэрыторыі, а «вызваленнем» — занясце незаконнымі фарміраваннямі населеных пунктаў. Расія лічыць, што мае права ўмешвацца ва ўнутраныя справы іншых краін,— прызнаных міжнародным супольніцтвам членаў ААН,— толькі на той падставе, што там жыве рускамоўная меншасць. XX стагоддзе ўжо ведала краіну, якая пачынала з «абароны правоў сваёй меншасці» ў суседніх краінах. Гэта была гітлераўская Германія.

Вузлы канфліктаў у былых савецкіх рэспубліках свядома завязваліся шматгадовай міграцыйнай палітыкай, а ў час развалу савецкай імперыі — падтрымкай пракамуністычных настрояў у частцы некарэннага насельніцтва. Нікім не прызнаныя, але выразна зарыентаваныя на Маскву сепаратысцкімі «рэспублікамі» кіруе былая камуністычная наменклатура. Штучна і па аднолькавым сцэнарыі створаныя «рэспублікі» сталі мінамі запаволенага дзеяння супраць незалежнасці краін былога СССР.

Управа БНФ рашуча асуджае праявы расійскага імперыялізму. Канфлікты ў краінах былога СССР распальваліся пры ўдзеле імперскага «цэнтра» і могуць быць вырашаны толькі пры неўмяшанні Расіі. Управа БНФ патрабуе ад кіраўніцтва Беларусі цвёрдага захавання канстытуцыйнага курсу на нейтралітэт. Сённяшнія імперскія памкненні Расіі робяць немагчымым саюз Беларусі з ёю. Наш народ дастаткова пакутаваў пад чужой уладай, каб зноў пасылаць сваіх сыноў гінуць за чужыя інтарэсы.

# Ужо нават і не маскіруюцца

**Абразы і здзекі з беларускай мовы непрыхавана выпінаюцца са старонак большасці рускамоўных газет Віцебшчыны. Асабліва стараецца «Рабочее слово» (газета Віцебскага вытворчага аб'яднання «Вітязь»). Вось адзін з прыкладаў — артыкул Е. Кавальчынскага. Ён сцвярджае, што ідзе «насільная» беларусізацыя народа. Такое выдумаць? Але дазвольце спытаць, які паважаючы сябе народ дазволіць адмовіцца ад роднай мовы на карысць чужацкай? Такога няма ў свеце. А гэта: «то, что многие радиослушатели нашей республики,— піша газета,— лишились возможности слушать передачи на русском языке из Москвы... никакого отношения к суверенитету не имеет. Это обыкновенный произвол, подыгрывающий националистическим чувствам небольшой группы минской интеллигенции, пытающейся насильственными методами насаждать белорусский язык». Вось так. Зноў «нацдэмы»!**

**«...Не сомневаюсь и в том, что каждая нация должна иметь свой государственный язык. И таким языком для всех нас должен стать тот, на котором мы захотим разговаривать все или, по крайней мере, подавляющее большинство. А если мы всё-таки предпочтём русский, разве от этого Республика Беларусь что-либо утратит?.. Немало примеров, когда аборигены, населяющие ту или иную страну, предпочитали пользоваться не языком, распространённым в их местности, а избирали себе в качестве официального тот же английский или французский».**

**Выходзіць, на большае да гэтага часу не цягнем, як быць з тутэйшымі на роднай зямлі? Але беларусы — не абарыгены з Вогненнай Зямлі. Беларускі народ, нягледзячы на 200-гадовую русіфікацыю, здолеў уратаваць такі-сякі нацыянальны гонар ды і духоўнае багацце — нацыянальную культуру.**

**Мова не знічка, а бессмяротная душа народа!**

**Сцяпан РОСНЫ.**

**г. Віцебск.**

***Менскі грамадска-палітычны клуб «Спадчына» распаўсюдзіў Адкрыты ліст да Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Станіслава Шушкевіча і Старшыні Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь Вячаслава Кебіча.***

# КАБ НЕ ДАЖЫЦЬ ДА АНЕКСІЙ

Сябры клуба «Спадчына» глыбока заклапочаны не толькі станам дзяржаўнай мовы і нацыянальнай культуры, яны звяртаюць увагу на пагрозу катастрафічнай развязкі, якая можа адбыцца ў выніку «ціхай» анексіі значнай часткі тэрыторыі Беларусі, як «Крэсаў усходніх» да Польшчы, так і часткі «Северо-Западного края» да Расіі.

Такое прадчуванне,— гаворыцца ў лісце,— складаецца ў значнай часткі свядомых беларусаў. Аб гэтым адкрыта піша наш беларускі друк, аб гэтым у поўны голас гаварылі многія дэлегаты на Рэспубліканскай канферэнцыі Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны, якая праходзіла ў Менску 15 траўня 1992 года.

Аб прэтэнзіях на «Крэсы ўсходнія» адкрыта пішуць польскія газеты, паведамляе польскае тэлебачанне, а на частку «Северо-Западного края» — расійскія сродкі інфармацыі.

Чаго варты, напрыклад, такі факт,— заўважаюць сябры клуба «Спадчына»,— як непрызнанне Ватыканам з усіх еўрапейскіх краін СНД толькі Беларусі. І гэта пасля сустрэчы Вячаслава Кебіча з Папам Янам Паўлам II у час нядаўняга візіту ў Італію.

Але не толькі польскі і расійскі друк,— гаворыцца далей у лісце,— вядзе адкрыты наступ на нашыя тэрыторыі, на нашую нацыянальную свядомасць. Дзяржаўнае тэлебачанне рэспублікі адкрыта вaюе з дзяржаўнай мовай, адкрыта яе высмейвае, а заадно і нашую незалежнасць, абражае нацыянальныя пачуцці кожнага з нас і ўсіх разам.

Колішняя партыйная газета «Вечерний Гомель», якая хацю і змяніла назву, але не змяніла сваёй сутнасці, распачала шалёную атаку на чытачоў, даказваючы, што Гомель — горад не беларускі, што беларусаў у ім няма, што нібыта бальшавікі прышчапілі яго да Беларусі толькі ў 1926 годзе. Газета адкрыта не прызнае нашую беларускую дзяржаўнасць, нашую мову, пагражае новым Карабахам у Беларусі. І не яна адна!

Расійская праваслаўная царква на Беларусі,— нагадваюць сябры клуба «Спадчына»,— робіць тую ж самую русіфікатарскую справу. Праўда, за апошні час ёй надалі назву Беларускай праваслаўнай царквы, але гэта зроблена толькі дзеля падману, таму што набажэнства на роднай мове яна не праводзіць і нават не збіраецца на бліжэйшае дзесяцігоддзе тое рабіць. Пад выглядам царкоўна-славянскай мовы яна карыстаецца расійскай з нязначным прыдаткам царкоўных тэрмінаў і наданнем асобным расійскім словам славянскіх канчаткаў. Ніякай нацыянальнай палітыкі такая царква праводзіць не можа і ніколі не будзе, таму што поўнасцю знаходзіцца пад юрысдыкцыяй і ўладай Рускага Праваслаўнага Сінода, Расійскага Памеснага Сабора і Патрыярха Маскоўскага і ўсяе Русі. Нават прызначэнне Мітрапаліта і нават хіратанізацыя ці зацвярджэнне на кафедры сямі іншых епіскапаў на Беларусі робіцца і дазваляецца толькі з блаславення Патрыярха Маскоўскага.

У народзе справядліва кажуць, які поп, такі і прыход. Паны пад кіраваннем Патрыярха Маскоўскага не зробяць прыхаджан беларусамі, не паспрыяюць развіццю нашай мовы і культуры. У самым лепшым выпадку яны толькі змогуць імітаваць справу беларусізацыі, а на практыцы праводзіць русіфікацыю.

Тое, што адкрыта друкуюць расійскія шавіністы ў нашых газетах,— пішуць аўтары ліста,— больш вытанчана робяць польскія місіянеры праз каталіцкі друк і праз ксяндзоў. У Беларусь, як калісьці ў Афрыку ці Лацінскую Амерыку, хлынулі польскія каталіцкія місіянеры, ксяндзы, манахі. Яны нясуць у народ не толькі слова Божае, але і пальшчызну, адкрываюць польскія школкі пад выглядам касцёльных, дзе навучанне дзетак ідзе не толькі на польскай мове, але з насаджэннем польскай ментальнасці, свядомасці, непрыязнасці да ўсяго «хлопскага» — беларускага.

Працэс апалячвання ў Гродзенскай і Брэсцкай абласцях працягваецца. Справа дайшла да таго, што ў касцёлах вывешваюцца польскія дзяржаўныя сцягі і гербы. Апалячаная частка насельніцтва заходніх абласцей Беларусі ўжо адкрыта заяўляе, што яны былі «Крэсамі ўсходнімі» і хочуць імі быць. Настаў момант, калі адступаць ужо няма куды: ззаду Масква, а спераду ціснe Варшава.

Не трэба быць прарокам, каб прадбачыць, што адбудзецца праз год-другі пры такім патуранні нашымі кіруючымі органамі польскім і расійскім вялікадзяржаўным шавіністам. Народ, даведзены да роспачы пяўдалым кіраваннем і эканамічнымі праваламі, задураны прапагандай, можа масава пацягнуцца да Польшчы ці Расіі, каб стаць «Крэсамі ўсходнімі» ці «Северо-Западным краем», але мець пэўны кавалак хлеба, як ім настойліва ўбіваецца ў галаву. Яго менталітэт можа аказацца канчаткова разбураным, народ стане поўнасцю дэнацыяналізаванай масай. Ад Беларусі можа застацца толькі яе цэнтральная частка, прыкладна з тымі ж землямі, што некалі ў часы нямецкай акупацыі засталася за Беларуссю.

Мы хочам нагадаць тую неразумную нацыянальную палітыку,— пішуць аўтары ліста,— якую праводзіла КПБ — КПСС. Адкрытая пагарда да ўсяго нацыянальнага, да роднай мовы, культуры, гісторыі, вылучэнне на першае месца свайго інтэрнацыяналізму, а па сутнасці адкрытае прыслужніцтва расійскаму «старэйшаму брату» і расійскай метраполіі, прывяло КПБ нават да адмаўлення сваёй самастойнасці як партыі і палітычнай арганізацыі.

Такая непрадбачлівая палітыка КПБ яскрава праявілася на яе апошнім з'ездзе, калі найбольш русіфікаваныя ці «заінтэрнацыялізаваныя» дэлегаты адмовіліся прыняць свой статут партыі, толькі на каліва іншы за расійскі. Чым закончылася гэта, мы ўсе добра ведаем. Але ўрокі гісторыі, відаць, для таго і існуюць, каб іх не ўлічваць.

У грамадстве распаўсюджана думка, што цяперашні наш Урад і Вярхоўны Савет ёсць працяг ранейшага ўрада, плоць ад плоці «сваёй роднай камуністычнай партыі», выхаванай на «інтэрнацыянальных традыцыях». Адсюль і праявы калабарацыянізму і кампрадорства.

Мы былі б,— пішуць у заключэнне аўтары ліста,— шчаслівыя, каб гэта былі толькі нашыя памылковыя погляды, а вышэйшае кіраўніцтва на канкрэтнай справе магло б даказаць перад усёй рэспублікай, што гэта сапраўды толькі нейкія непаразуменні, звязаныя з працэсам перабудовы, станаўлення дэмакратыі, першымі крокамі ў фарміраванні незалежнасці і суверэнітэту, новым дзяржаўным будаўніцтвам і пошукамі ўзаемаадносін са сваімі суседзямі, што Урад і Парламент гатовы ў бліжэйшы час разгледзець гэтыя і прыняць адпаведныя захады і законы па абароне беларускага менталітэту, мовы карэннага насельніцтва, незалежнасці і суверэнітэту Бацькаўшчыны, а таксама прыняць адпаведныя пастановы аб дзейнасці царкоўных канфесій на карысць духоўнага і культурнага росквіту Рэспублікі Беларусь.

**Ліст падпісалі сябры клуба «Спадчына»:**
**Анатоль БЕЛЫ, Раіса РЫЖКОЎСКАЯ, Яўген ГУЧОК, Ядвіга ПЯТРОЎСКАЯ, спадар МАНАВЕЦКІ, Аксана БАГДАНОВІЧ, спадар ГЕРАСІМАЎ, Ала КАЖЭРА, спадарыня ШПАКОЎСКАЯ, Лілея МАТУСЕВІЧ, Аўген КАЛУБОВІЧ, Леанід ЭМІЛІТ, Святлана БАРЫСЕВІЧ, Святлана БАГДАНКЕВІЧ, Іна КУШАЛЬ і іншыя.**

*WIS*

**У Івацэвіцкім раёне нядаўна ўтварылася ініцыятыўная група ў падтрымку культурнага асяродка «Беларусь» (Казахстан), які вырашыў належным чынам ушанаваць імя сына беларускай зямлі Тадэвуша Касцюшкі.**

**Да 250-годдзя з дня нараджэння славутага земляка плануецца стварыць мемарыяльны комплекс «Марачоўшчына — Тадэвуш Касцюшка». У склад ініцыятыўнай групы ўвайшлі настаўнікі Гошчаўскай, Запольскай, Козаўскай школ М. Майсейчык, А. Зайка, Л. Краўцэвіч і іншыя энтузіясты. Праз раённую газету яны звярнуліся да грамадскасці з просьбай дапамагчы ў будаўніцтве мемарыяла.**

**Спадзяёмся, што не застанецца ўбаку ад гэтай справы і сп. У. Рымша, старшыня аграфірмы-калгаса «Беларусь», сядзіба якой побач з радзімай Т. Касцюшкі, дзе таксама чакае рэстаўрацыі Косаўскі палац. Магчыма, гэтаму паспрыяе і тое, што аграфірма стварае ўласную будаўнічую базу, узводзячы на мясцовай гліне непадалёку ад Менска буйны цагельны завод.**

МИНИСТЕРСТВО ЮСТИЦИИ
Республики Беларусь

СВИДЕТЕЛЬСТВО
О РЕГИСТРАЦИИ УСТАВА
ОБЩЕСТВЕННОГО ОБЪЕДИНЕНИЯ

26 мая 1992 г.

№ 336

Название объединения Партия коммунистов Беларуси

Вид объединения республиканское

Руководящий орган объединения Политисполком (полное наименование)

г.Минск (адрес)

Основные цели деятельности объединение работников наёмного труда для достижения полного освобождения от эксплуатации во всех её видах и построению бесклассового общества социальной спра-



Д. А. ДАШУК

*Але!*

# Смяяцца ці трывожыцца?

Газета «Мы и время» апублікавала паведамленне аб рэгістрацыі партыі камуністаў Беларусі з фотаздымкам пасведчання аб рэгістрацыі, падпісанага Міністрам юстыцыі Д. А. Дашуком.

Дзіўнага тут нічога няма. Партыйная газета з радасцю друкуе копію пасведчання аб рэгістрацыі сваёй партыі. Камуністаў і газету можна павіншаваць нават з гэтай нагоды.

Тут мяне здзівіла іншае. Пасведчанне № 336 выдадзена 26 мая 1992 года. Надрукавана яно на рускай мове і змацавана пячаткай... Міністэрства юстыцыі БССР (!).

Вось і хочацца спытаць, чаму гэта Міністэрства юстыцыі і асабіста таварыш Дашук да гэтага часу ў афіцыйных дакументах карыстаюцца атрыбутамі і афіцыйнай моваў «единого и неделимого»? Ён жа чалавек, які павінен ажыццяўляць нагляд за выкананнем законаў, у тым ліку і Закона аб мовах у Рэспубліцы Беларусь. І, у першую чаргу, сам павінен падаваць у гэтым прыклад. Ну, няхай не хапіла Міністэрству двух гадоў, каб надрукаваць новыя бланкі пасведчанняў. Дык улічваючы, што іх у тыдзень у сярэднім выдаецца не больш трох, іх можна было б надрукаваць на машынцы і растыражыраваць на ксераксе.

Але самае дзіўнае нават не гэта, а тое, што дакумент Міністэрства, якое кантралюе выкананне законаў, зацвярджаецца пячаткай... неіснуючай БССР.

Можа, з гэтай нагоды юрыстам трэба было б прызнаць гэтае пасведчанне незаконным?

Дарэчы, у некаторых нашых раённых арганізацыях пячаткі з новым гербам і новым тэкстам з'явіліся яшчэ ў студзені гэтага года. А можа, справа зусім у іншым? Можа, таварыш Дашук не спяшаецца з пераменамі, бо спадзяецца, што хутка нічога непатрэбна будзе мяняць? Але ж кола гісторыі назад не круціцца.

*І. ФУРСЕВІЧ.*

*г. п. Докшыцы.*

*WIS*

**Былы старшыня пінскага згуртавання «Палесьсе» заявіў пра яго самароспуск і стварэнне ліквідацыйнай камісіі. Вырашыла парваць з кіраўніцтвам у Менску і Драгічынская суполка. На яе думку дзейнасць гэтага кіраўніцтва не накіравана на адраджэнне самабытнай культуры палешукоў, а газета «Збудзіньне» выдаецца на незразумелай мове.**

**Акрамя ўсяго, выявілася, што суполкі «Палесьсе» ў Целяханах, Століне і на Лунінеччыне ніколі не існавалі.**

*Нашы за мяжой*

# ЕЎРОПА РАЗУМЕЕ НАС

Наўрад ці хтосьці з чытачоў, бываючы раней у Польшчы, мог адчуць яе стаўленне да суседа з Усходу. Беларусі ўвогуле не існавала для палякаў. Усё, што знаходзілася па другі бок Буга — гэта Расія. Нават праваслаўнае беларускае насельніцтва Беласточчыны традыцыйна называлася рускім. Ды што дзівіцца, калі сам беларус пачаў ужо забывацца, хто ён ёсць, адкуль ягоныя карані. І толькі калі здолеў нешта змяніць у сабе, да яго з увагай (і павагай) пачалі ставіцца і суседзі.

З развалам імперыі, дзякуй Богу, Беларусь выбрала найбольш канструктыўны шлях: не цёплае месцейка пад крылом якогасьці старэйшага брата, які ў любы момант можа зрабіць тое месца халодным, а цяжкі, ды затое шматабяцальны поступ да суверэннасці, да будаўніцтва сваёй дзяржаўнасці. І сёння гэта ўжо не міф — дзяржава Беларусь. Яна сваімі ўчынкамі прымушае свет бачыць сябе.

У першай палове мая Міжнародны фонд дэмакратычнага цэнтра Усходняй і Цэнтральнай Еўропы арганізаваў у Варшаве семінар для маладых журналістаў Беларусі, Украіны і Літвы, на якім давялося пабываць і мне. Сур'ёзны ўзровень мерапрыемства (візіты ў вядучыя польскія газеты «Жэчпосполіта» і «Газэта выборча», у рэдакцыю незалежнай радыёстанцыі «Зэт», сустрэчы з шэфам прэс-бюро Польскага Урада Збігневам Рыкоўскім і шэфам варшаўскага бюро часопіса «Ньюсуік» Анджэем Нагорскім ды інш.) абумоўлены, відаць, у немалой ступені тым, што спонсарамі іх выступілі многія ўплывовыя заходнія бізнесмены і грамадскія дзеячы. «Навошта ім гэта? — спытаеце вы.— Няўжо яны гэтакія мецэнаты?»

Ды не, для пошуку адказу на гэтае пытанне трэба асэнсаваць тыя працэсы, што адбываюцца ў Еўропе. Здаецца, Еўропа разумее патрэбнасць агульных кантактаў. Нібыта і ў савецкай імперыі мы ядналіся, але гэта адбывалася на ўмовах стандартызацыі, нівеліроўкі асобы і непавагі да адметнасці.

Адчуўшы, што імперыя імкліва развальваецца, Захад не мог маўкліва глядзець, што будзе з аскепкамі гэтай імперыі, каб у адзін цудоўны момант не знайсці пад бокам галоднага ды ўзброенага ворага.

Гэта адчулі і ўдзельнікі Варшаўскага семінара. Адчулі і змену стаўлення да сваіх адроджаных дзяржаў.

Па-за афіцыйнымі семінарамі ў нас адбылася і прыватная гутарка з Анджэем Нагорскім («Ньюсуік»). Сам ён нарадзіўся ў Шатландыі, але ягоная маці паходзіць з Меншчыны (вёска Вязынь). Спадар Нагорскі ў курсе падзей, што адбываюцца на радзіме продкаў, і хоць ён не прыхільнік нацыяналістычнага экстрэмізму на ўзроўні карабахскага альбо югаслаўскага, але мяркуе, што пошук кожным народам сваёй адметнасці, нацыянальнага ўсведамлення натуральны, калі не ідзе поруч з нянавісцю да іншых народаў.





Дзесьці з год таму мне давялося на польскім тэлебачанні ў рубрыцы «Суседзі» паглядзець цікавую перадачу Марэка Мальдзіса «Беларусь». Там было і інтэрв'ю з беларускім навукоўцам Адамам Мальдзісам, падчас якога вядучы зазначыў, што два Мальдзісы (паляк і беларус) не знаходзяцца ў сваяцкіх адносінах, а проста цёзкі. Тая перадача нібыта была першай ластаўкай у асэнсаванні Польшчай пытання: хто ж яе ўсходні сусед — Расія ці ўсё ж Беларусь? Нашы семінарскія сустрэчы ў Варшаве засведчылі, што гэтае асэнсаванне пашырылася. Наш семінар вяло нямала людзей (Павал Казанецкі, Якуб Баратынскі, Чэслаў Сэнюх і іншыя), якія імкнуцца глыбей і глыбей прасякнуцца разуменнем Беларусі, нашых агульных канфліктаў і здабыткаў, нашай агульнай гісторыі і будучыні.



Зразумела, гэта адбываецца не без праблем і памылак. У сёлетнім 9-м нумары часопіса «Бюлетэнь Эўропэйскі» (красавік), які выдае адзін з арганізатараў семінара, мне кінуўся ў вочы артыкул Павала Казанецкага «Пра наймалодшую нацыю ў Еўропе. Маладзёжныя рухі ў Беларусі». Аўтар даволі дакладна разабраўся ў стракатасці палітычнай карты адраджэнскай Беларусі, але ў самім загалоўку хаваецца вельмі прыкры памылковы стандарт, што мы толькі ствараем сваю нацыю, што ў нас не было багатай гісторыі і культуры, хоць на самай справе залаты век Беларусі прыпадае яшчэ на Сярэднявечча.

Развенчванню такіх памылковых міфаў дапамагае актыўная дзейнасць польскіх беларусаў. І не толькі на Беласточчыне, але і ў Варшаве. Нядаўна тут створана Беларуская рэдакцыя Польскага радыё, слухачамі якой з'яўляюцца беларусы не толькі Польшчы, але і Беларусі, заходніх краін. Гэтая радыёстанцыя разносіць на кароткіх хвалях мудрае слова беларускіх навукоўцаў, палітыкаў, дзеячаў мастацтва, гучаць тут беларускія народныя песні, інструментальная музыка, беларускія рок-н-ролы. Частыя госці ў гэтай варшаўскай студыі — дзеячы беларускай культуры з Польшчы: навуковец Юры Туронак, пісьменнік Сакрат Яновіч, журналіст Віталь Луба і інш. Падчас семінара журналісты радыёстанцыі Ярэк Іванюк і Уладзімір Пац знайшлі таксама нас, маладых беларускіх журналістаў з гэтага боку мяжы. Так што і нашымі галасамі «мувіла Варшава по-бялоруску» пра неабходнасць яднання народаў Еўропы, але яднання не імперскага, а стракатага, размаітага.

Я ўжо згадваў у гэтым артыкуле спадара Чэслава Сэнюха, польскага пісьменніка і перакладчыка. Гэты чалавек цудоўна валодае і беларускай, і ўкраінскай, і літоўскай мовамі, таму, вырашыўшы выдаваць семінарскую газету, усе тры групы аднадушна абралі спадара Сэнюха галоўным рэдактарам. Арганізатары семінара забяспечылі імправізаваную рэдакцыю паперай, машынкамі з беларускім, украінскім і літоўскім шрыфтамі, іншым інструментарыем і... закіпела праца.

Грандыёзныя планы былі ў літоўцаў, нешта паспелі зрабіць украінцы, але да выдання дайшлі толькі беларусы. Паколькі праца праходзіла ў адным з холаў варшаўскага дома студэнтаў «Рыўера», дзе мы жылі, дык і газета была названа «Белрыўерапрэс». Спадар Чэслаў Сэнюх, дапамагаючы нам распаўсюджваць выданне, зазначыў:

— Заўсёды ганаруся сваімі беларускімі каранямі. Беларусы ніколі не падводзяць.

Як узнагарода за гэтае ўзаемнае паразуменне і згоду — агульная вечаровая размова за кубкам кавы, падчас якой мы абмяняліся аўтографамі (хто паставіў яго на сваім часопісным артыкуле, а хто ўжо меў і ўласную кніжку), а таксама паслухалі інтрыгуючы роспавед пра юнацтва аднаго польскага хлопца, якога лёс звёў з беларускім адраджэнскім рухам, пачулі ад яго невядомыя нам патрыятычныя беларускія песні.

Вось і выходзіць: чым глыбей мы ўсведамляем сваю нацыянальную сутнасць, тым шырэй будзем знаходзіць парасткі беларускіх пасеваў па ўсім свеце.

**Вітаўт МАРТЫНЕНКА.**

НА ЗДЫМКАХ: у беларускай рэдакцыі Польскага радыё ідзе мантаж перадач; працуе радыёстанцыя «Зэт».

**Фота У. ПАНАДЫ.**

# ТРЫ ГАДЫ КАТАРГІ ЗА СПАЧУВАННЕ



У прадмове да артыкула Васіля Супруна «Патрыёты маўчаць не схацелі!», надрукаваным у газеце «Наша слова» ад 18 сакавіка г.г., аўтар просіць адгукнуцца ўсіх, хто ведае што-небудзь пра дэмакратычны рух беларускай моладзі ў 1946—1947 гадах. Я маю непасрэдныя адносіны да падзей, якія адбываліся тады ў Глыбокім. Ведаю і некаторых патрыётаў: сясцёр Барсук Лену і Ларысу, а таксама Краснадубскую Людмілу, Несцяровіч Ліду, Бароўку Алену, Таболу Алега, Бацяноўскага Альберта.

З Барсук Ленай і Ларысай я жыла ў адной вёсцы — Барсукі Глыбоцкага раёна. Лена і я аднагодкі, з 1929 года, Ларыса — на год старэйшая. Вучыліся ў адной школе. У сямігодцы разам з намі вучыліся Краснадубская Людміла і Табола Алег. Яны з суседніх вёсак. Пасля вайны прадоўжылі вучобу: Лена, Ларыса, Людміла — у педвучылішчы, а я ў сярэдняй школе № 1 г. Глыбокага. Табола Алег вучыўся ў Паставах. Тут, у школе, я пазнаёмілася з Несцяровіч Лідай, і мы пасябравалі. Часта заходзіла да яе на кватэру.

Аднойчы зімой 1946 года (тады мы вучыліся ў IX класе) я прыйшла да Ліды і ўбачыла там двух прыгожых хлапцоў. Ліда неяк збянтэжылася, а потым узяла сябе ў рукі і пазнаёміла мяне з імі, сказаўшы: гэта яе стрыечныя браты.

На самай справе то былі Асіненка Мікола з Пастаў і Фурс Антон з Глыбоцкага педвучылішча. Яны сустрэліся ў Несцяровіч Ліды для перамоў пра аб'яднанне падполля Пастаў і Глыбокага. Аб гэтым я даведалася пасля. А ў той вечар мы крыху пагаварылі, патанцавалі, і я пайшла дамоў. На другі дзень Ліда мяне папярэдзіла, каб я нікому не гаварыла, што да яе прыязджалі родзічы, што мяне здзівіла.

Праз некаторы час, узяўшы з мяне слова, што пры любых акалічнасцях я буду маўчаць, расказала пра падпольную арганізацыю «Саюз беларускіх патрыётаў»(СБП), якая аб'ядноўвае моладзь Пастаў і Глыбокага. Арганізацыя ставіла галоўнай мэтай адраджэнне беларускай мовы і культуры, а ў будучым — дамагчыся дзяржаўнай самастойнасці Беларусі, зрабіць дзяржаўнымі герб «Пагоню» і бел-чырвона-белы сцяг. Прозвішчаў падпольшчыкаў яна не назвала, акрамя Асіненкі і Фурса, бо я іх ужо бачыла.

У дзесяты клас Ліда не прыйшла, пераехала, здаецца, у Дзісну. Сувязь з ёю перарвалася, а сустрэліся толькі на судзе ў Менску. Практычна я ніякай актыўнай дзейнасцю не займалася. Проста спачувала змагарам.

Аднойчы, у пачатку сакавіка 1947 года, калі я вучылася ў дзесятым класе, у час урока дырэктар выклікаў мяне ў настаўніцкую. Там стаялі двое мужчын з наганамі. Мне сказалі: «Паедзеш з намі». І адразу павезлі ў Паставы. На ноч упіхнулі ў нейкае сутарэнне, а раніцаю далучылі да групы пастаўскіх падпольшчыкаў і павезлі ў Менскую турму. Мяне змясцілі ў камеру разам з Ленай Бароўкай, настаўніцай пачатковых класаў з Пастаўшчыны.

У турме мы прасядзелі больш за тры месяцы. Час ад часу нас выклікалі на допыты. Нарэшце ў чэрвені адбыўся суд. Судзіў ваенны трыбунал. Гэта працягвалася некалькі дзён. У жалезнай клетцы на лаве падсудных знаходзілася больш за 40 юнакоў і дзяўчат з Глыбокага і Пастаў. 20 чэрвеня 1947 года ваенны трыбунал войск МУС Мінскай вобласці вынес прыгавор: Асіненка Мікола і Васіль Мядзелец былі прыгавораны да расстрэлу, многія (зараз не памятаю, хто) — да 25, 20, 15, 10 і 8 год пазбаўлення волі. Несцяровіч Ліда, Бароўка Лена, Краснадубская Людміла, Табола Алег атрымалі па 10 год зняволення. Сёстраў Барсук разам з намі не было, яны пасьпелі схавацца. Іх злавілі і судзілі значна пазней, кожная атрымала па 10 год зняволення. Мяне за тое, што я ведала аб існаванні падпольнай арганізацыі, але не данесла органам КДБ, па арт. 73 УК БССР асудзілі на 3 гады пазбаўлення волі.

Разам з Ленай Бароўкай тэрмін адбывала на Поўначы ў Нарыльску. Пасля вызвалення ў сакавіку 1950 года вярнулася на радзіму. Лена засталася жыць у Нарыльску.

Барсук Лена і Ларыса былі сасланыя ў Магадан. Пасля амністыі 1956 года Лена з мужам прыехала ў родную вёску хворая і праз некалькі гадоў памерла. Ларыса і зараз жыве ў Магаданскай вобласці. Краснадубская Людміла таксама дамоў не вярнулася, засталася ў Казахстане. Бацяноўскі Альберт жыве ў г. Глыбокім, інвалід, вельмі хворы. Пра Несцяровіч Ліду і Таболу Алега нічога не ведаю.

**Тамара БАРСУК (па мужу ЛАГУН).**



# БЕЛАРУСКАЯ МОВА Ў НЯМЕЧЧЫНЕ

**Рурскі універсітэт у Бохуме (Нямеччына) вядомы сваёй выдатнай школай славістыкі. Тут працуюць такія вядомыя славісты, як праф. Х. Яхнаў, праф. К. Аймермахер, праф. Х. Сапак. Паміж інстытутам славістыкі Рурскага універсітэта ў Бохуме і кафедрай тэарэтычнага і славянскага моваэнаўства Беларускага універсітэта, якой кіруе праф. А. Я. Супрун, наладзіліся трывалыя навуковыя сувязі: выдадзены два сумесныя зборнікі артыкулаў «Праблемы лінгвістычнага тэксту» (у 1989 годзе ў Мюнхене — першая ўвогуле сумесная навуковая праца беларускіх і нямецкіх вучоных, і летась у Менску), рыхтуецца да выдання трэці, установы абмяняліся спецыялістамі, якія выступілі з лекцыямі і навуковымі дакладамі.**

**Напрыканцы 1991 і на пачатку 1992 года ў Бохуме працаваў прафесар кафедры тэарэтычнага і славянскага моваэнаўства Б. А. Плотнікаў, які не толькі займаўся навуковай работай, але таксама вёў заняткі па беларускай мове. Рэдакцыя папрасіла Алеся Кіклевіча распытаць спадара прафесара пра зацікаўленасць беларускай мовай у Нямеччыне.**

**— Браніслаў Аляксандравіч, раскажыце, калі ласка, больш падрабязна пра той курс беларускай мовы, які Вы вялі ў Рурскім універсітэце.**

— Лекцыі, якія я чытаў у Рурскім універсітэце, нельга назваць курсам беларускай мовы, бо слухачамі былі пераважна студэнты-славісты, што вывучаюць русістыку (і расійскай мовай валодаюць даволі добра), але пра нашу мову фактычна нічога не ведалі. Таму зразумела, што ўсе звесткі пра беларускую мову даваліся ў параўнанні з іншымі славянскімі мовамі (перш за ўсё — расійскай), каб больш яскрава выпукліць яе адметныя рысы. Заняткі доўжыліся паўтары гадзіны без перапынку і напрыканцы слухачам прапаноўваліся або запісы беларускіх народных песень (у выкананні «Песняроў», Данчыка), або невялікія закончаныя беларускія тэксты (казкі, паданні ды інш.) для перакладу на нямецкую мову. Нашы заняткі праводзіліся рэгулярна раз на тыдзень на працягу ўсіх трох месяцаў майго побыту ў Нямеччыне.

**— Па якому правапісу Вы вучылі немцаў — па афіцыйнаму ці па «тарашкевіцы»? Як Вы ўвогуле ставіцеся да праблемы правапісу беларускай мовы?**

— Усе беларускія прыклады, што ўжываліся на лекцыях, а таксама беларускія тэксты былі заснаваны на афіцыйным «наркамаўскім» правапісе.

На мой погляд, напрадвесні масавага ўкаранення беларускай мовы ў навучальны працэс найбольш здатным быў бы пераход нашага правапісу на лацінскі падмурак. Гэта б спрыяла шырокаму выкарыстанню ва ўсіх галінах нашай дзейнасці камп'ютэрнай тэхнікі і далучэнню беларускай мовы да сусветных патокаў пісьмовай інфармацыі, якая пераважна грунтуецца на лацінцы. Праз лацінку мы больш хутка здолеем далучыцца да еўрапейскай цывілізацыі.

Калі ж гаварыць менавіта пра «тарашкевіцу» і «наркамаўку», то, на мой погляд, больш прыдатнай для беларускай мовы з'яўляецца першая, бо «наркамаўка» — гэта ідэалагізаваная з'ява, скіраваная на зліццё беларускай і расійскай моў.

**— У якіх універсітэтах Германіі зараз выкладаецца беларуская мова? Хто яе выкладае?**

— Наколькі мне вядома, беларуская мова як асобная дысцыпліна паслядоўна не вывучаецца і не выкладаецца ні ў адным універсітэце Германіі, магчыма, менавіта таму, што там няма адпаведных спецыялістаў.

**— Ці ўзрасла зацікаўленасць немцаў да Беларусі, беларускай культуры і мовы пасля таго, як мы сталі суверэннай дзяржавай? Ці шмат увогуле заходнія немцы ведаюць пра нас, беларусаў?**

— Наша былая краіна — Савецкі Саюз, уяўлялася сярэдняму жыхару Нямеччыны не як саюз ста трыццаці нацый і народнасцей, а як суцэльная, адзіная дзяржава пад агульным найменнем «Расія». У свядомасці заходняга немца паняцці аб Беларусі, Украіне ці Казахстане прыблізна такія ж, як у недавучанага беларуса, напрыклад, аб нямецкіх землях тыпу Саар, Гесен, Шлезвіг-Гольштэйн і інш. Адначу дарэчы, што паміж дыялектамі некаторых нямецкіх зямель адрозненні не менш значныя, чым паміж украінскай і беларускай мовамі, і на гэтых дыялектах вядуцца радыёперадачы, друкуюцца кнігі.

Увогуле заходнія немцы маюць вельмі і вельмі цьмяныя ўяўленні пра Беларусь, а пра існаванне беларускай мовы (самы адмысловы помнік і крыніца нашай культуры) як асобнай славянскай мовы большасць з іх нават і не ведае.

**— Якія перспектывы развіцця беларусістыкі ў Германіі і ў тым ліку ў Рурскім універсітэце?**

— На сённяшні дзень такіх перспектыў проста не існуе. Больш-менш масавы інтарэс да мовы залежыць ад поспехаў у розных галінах дзейнасці, перш-наперш — у эканоміцы. Аддзяленні расійскай мовы пачалі адкрываць у заходнееўрапейскіх універсітэтах у 60-х гадах XX стагоддзя не пад уплывам твораў Л. Талстога ці Ф. Дастаеўскага, а пад уплывам паспяховых запускаў касмічных караблёў. Што ж тычыцца беларускай мовы, то надзённым для яе з'яўляецца абуджэнне інтарэсу з боку ўсяго насельніцтва нашай рэспублікі.

# *«Полацак»*

Трэці нумар часопіса «Полацак» адкрываецца малітвай «Пачуй, о, Ласкавая Маці», прысвечанай заступніцы беларускага народа Жыровіцкай Божай Маці. Гэта адна з песень зборніка Барыса Данілюка «Душэўныя пасьпевы», музыку да якіх напісаў кампазітар Уладзімір Бучэль.

Наступныя старонкі часопіса працягвае рубрыка «Зерцало жития». Тут надрукаваны артыкул Ядвігі Двінскай «Ён памёр за нас» — пра велікодную службу ў Спаскай царкве Спаса-Ефрасінеўскага манастыра.

Шырокаму колу чытачоў адрасаваны матэрыялы рубрыкі «З архіваў КДБ»: невялікі нарыс Аляксандра Цьвікевіча «Ліквідацыя БНР не была манеўрам» і працяг артыкула Мікалая Сташкевіча і Юрыя Смірнова «Палітычны партрэт Зміцера Жылуновіча».

У рэдакцыю часопіса прыходзіць шмат лістоў ад беларусаў з розных куткоў свету, у тым ліку і з Беларусі. Падборка іх рэгулярна змяшчаецца пад рубрыкай «Лісты з Бацькаўшчыны». У гэтым нумары навіны Берасцейшчыны, Віцебшчыны і Менску пераказваюць Ігар Бараноўскі, Юрась Сцяпанаў і Анатоль Старадарожскі.

Шэраг цікавых матэрыялаў прапанаваны чытачам пад рубрыкай «Наша гісторыя». Сярод іх артыкул Людмілы Дучыц «Як апраналіся нашы продкі», працяг публікацыі Паўла Урбана «Да пытання этнічнай прыналежнасці старажытных ліцвіноў» і працяг навуковай працы Міхася Белямука «Эмблема на шчыце герба «Пагоня».

Багаты і разнастайны раздзел «Памяць зямлі». Тут змешчаны працяг нарыса Лявона Шымана «Мая няволя» і працяг успамінаў Яўгена Ціхановіча. Часопіс знаёміць чытачоў з д-рам Вітаўтам Тумашам, які цяпер жыве ў Нью-Йорку. Рэдакцыя прапануе чытачам яго артыкул пра Віленскую беларускую гімназію, працяг якога будзе друкавацца ў наступных нумарах.

У нумары змешчана віншаванне паэту Масею Сяднёву з нагоды выхаду на Бацькаўшчыне яго кнігі «Патушаныя зоры» (выдавецтва «Мастацкая літаратура»), а таксама некалькі вершаў Вольгі Куртаніч.

У артыкуле «Панацэя ад радыяцыі» лекар Валерый Біткашаў, які раней узначальваў арганізаваны ім Гомельскі фонд народнай медыцыны, а цяпер жыве і працуе ў Кліўлендзе, прапануе правераны рэцэпт эліксіра, ужыванне якога прыводзіць да змяншэння радыяцыі ў крыві і павышэння імунітэту арганізма.

Напрыканцы часопіса шмат паведамленняў, абвестак. Трэба адзначыць удалае мастацкае афармленне выдання, наяўнасць мноства ілюстрацый, фотаздымкаў.

**Л. БАРШЧЭЎСКАЯ.**

*Добры дзень, «Наша слова»!*

*Прачытала ў «Звяздзе» ад 25 мая 1991 года: «Заслугоўвае ўвагі славуты заходнебеларускі буквар С. Паўловіча «Першыя зярняткі» (1936) — гераічная старонка змагання працоўных мас за родную мову. Гэты буквар прызначаўся для хатняга навучання беларускай мове, друкаваўся лацінкай і кірыліцай».*

*Мяне зацікавіла імя і прозвішча аўтара буквара. Хацелася б даведацца, калі гэта магчыма, аб яго жыцці: ці не мае С. Паўловіч дачынення да майго «радаслоўнага дрэва»? І наогул, расце, хаця дужа марудна, нацыянальная свядомасць беларусаў, цікавасць да гісторыі свайго народа, роднай мовы, культуры. Прачытаць пра аднаго з малавядомых дзеячаў культуры і асветы будзе цікава ўсім чытачам.*

**З павагай ПАЎЛОВІЧ-БУЛАНАВА С. М.**

*Пытанне — адказ*

# «Стары Паўловіч»

У свой час імя гэтага чалавека было добра вядома ў Заходняй Беларусі. У «Лістках календара» (Мн., 1970) Максім Танк занатоўвае (25 красавіка 1936 года): «... заглянуў у Галоўную ўправу Таварыства беларускай школы. Стары Паўловіч пазнаёміў мяне з надзвычай цікавым і інтэлігентным селянінам з-пад Клецка Язэпам К. Яго паслалі аднавяскоўцы, каб даведаўся, што трэба рабіць, каб у іх вёсцы замест польскай пачатковай школы адкрылі беларускую, і каб ён прывёз сотні дзве дэкларацый, неабходных для гэтага.

— За падаткі секвестратары і паліцыя забралі ў нас усё, што ацалела з вайны,— казаў ён, упакоўваючы атрыманыя ад Паўловіча бланкі, кнігі.— Зараз паны адбіраюць ад нас мову, а з мовай і нашу будучыню — нашых дзяцей».

«Стары Паўловіч» — Сяргей Канстанцінавіч Паўловіч, відны прагрэсіўны педагог і дзеяч народнай асветы ў Заходняй Беларусі. Ён нарадзіўся ў вёсцы Асавец недалёка ад Кобрына 13(25) верасня 1875 года. Напярэдадні новага веку Сяргей Паўловіч скончыў Кіеўскую духоўную акадэмію і на працягу васьмі гадоў выкладаў у царкоўных навучальных установах. Пасля працаваў у Рагачоўскіх настаўніцкай семінарыі і жаночай гімназіі, быў інспектарам народных школ Ваўкавыскага павета. З 1925 года Сяргей Канстанцінавіч пачынае займацца выхаваннем нацыянальна свядомай моладзі ў Віленскай беларускай гімназіі. Там Паўловіч выкладаў і быў дырэктарам, але ў 1928 годзе па палітычных матывах пазбаўлены права выкладання. «Ён лічыў, што беларуская школа павінна быць толькі грамадскай... Ён неаднаразова падкрэсліваў, што дзіця прыходзіць у школу з пэўным запасам вобразаў, уяўленняў і ідэй, якія трэба развіваць. Крыніцай гэтых паняццяў з'яўляецца сям'я, родны дом, прырода — усё блізкае і дарагое. Адной з умоў паспяховага навучання дзяцей С. Паўловіч лічыў добрае веданне настаўнікамі роднай мовы дзяцей, традыцый народа, яго эканамічнага, культурнага і грамадскага жыцця...» — гэта радкі з «Нарысаў гісторыі народнай асветы і педагагічнай думкі ў Беларусі» (Мн., 1968).

С. Паўловіч актыўна супрацоўнічае ў часопісе «Летапіс», органе ТБШ, дзе выступаў з артыкуламі радыкальнага характару, бараніў беларускую школу, заахвочваў да самаадукацыі, прапагандаваў хатняе навучанне. Добры розгалас меў яго артыкул «Аб арганізацыі беларускай працоўнай школы» (1928 г.). Сяргей Канстанцінавіч падрыхтаваў і выдаў падручнік «Пішы самадзейна» (частка 1, 1929 г.) і навучальны дапаможнік «Метадычныя заўвагі да пасобніка «Пішы самадзейна» (1929 г.).

За актыўную дзейнасць у Галоўнай управе ТБШ С. К. Паўловіч быў двойчы (у 1930 і 1933 гадах) асуджаны.

У згаданых вышэй «Нарысах...» Г. Р. Сянькевіч зазначае: «У 1936 годзе па заданню КПЗБ С. Паўловіч напісаў беларускі буквар «Першыя зярняткі».

Восенню таго ж года, а дакладней, 24 кастрычніка, як можна даведацца з «Лісткоў...» Максіма Танка, адбылося абмеркаванне буквара: «...дзеячы з «Роднага краю» (газета групоўкі нацыянальна свядомай інтэлігенцыі, што стаяла на пазіцыі супрацоўніцтва з польскім урадам — *З. С.*) «спадар» Янка Станкевіч, Станіслаў Станкевіч... пад выглядам «зычлівай» крытыкі стараліся скампраметаваць і аўтара гэтага так неабходнага для беларускіх дзяцей падручніка, і агулам усё, што робіцца зараз супольнымі сіламі на ніве асветы і культуры».

Урад буржуазнай Польшчы адчуў небяспеку такой беларускай кніжкі і канфіскаваў увесь тыраж другога выдання буквара. Такі ж лёс напаткаў і буквар С. Паўловіча «Засеўкі», што выйшаў праз год.

Неўзабаве пасля гэтай падзеі Максім Танк запісаў у «Лістках...»: «На хвіліну зайшоў да С. Паўловіча... Жыве ён недалёка ад Тэхнічнай школы, на вуліцы Папоўская, 9, кв. 4... Паабяцаў я Сяргею Канстанцінавічу напісаць некалькі казак для дзіцячага часопіса «Снапок», які мае выходзіць пад яго рэдакцыяй... Жонка яго не выпусціла мяне, пакуль не пачаставала чаем і смачным дамашнім пячэннем. Калі я адыходзіў, гаспадар, не зважаючы на позні час, правёў мяне некалькі кварталаў, расказваючы аб сваёй працы ў Таварыстве беларускай школы, аб невясёлых справах у беларускай гімназіі, якую школьныя ўлады збіраюцца закрыць...»

Ілюстраваны часопіс «Снапок» (пад рэдакцыяй С. Паўловіча) выходзіў на беларускай мове ў Варшаве толькі адзін год (1937). У гэтым жа 1937 годзе польскія ўлады забаранілі дзейнасць Таварыства беларускай школы.

С. К. Паўловіч памёр бяздзетным у Вільні 16 верасня 1940 года, жонка перажыла яго. З ёю, дзевяностагадовай, у 1960 годзе сустракаўся наш вядомы даследчык Арсень Ліс.

**Здзіслаў СІЦЬКО.**

*Слоўцы, якія паслужаць*

*Павел МІСЬКО*

# Сказаў як звязаў

**Много мнить о себе** — Нос драць (задзіраць).— Хвост задзіраць.

**Мякинная башка** — Цямця-лямця.— Дурань дурны.— Даўбешка дурная.

**Набить оскомину** — Абрыдзець горш печанай рэдзькі.

**Намять холку** — Засыпаць жару за каўнер.

**На первый случай** — На закваску.— Каб было за што рукі зацяць (зачапіць).

**Нарезаться в стельку** — Набрацца, як жаба гразі.— Намурзацца.

**На худой конец** — На ўсякі выпадак.— Калі на тое пайшло.

**Не лезет в глотку** — Душа не прымае.

**Не на того напал** — Пашукай другога дурня.

**Не приведи господь** — Хай Бог крые і бароніць.

**Не сойти мне с этого места** — Каб я раніцы не дачакаў.

**Нечистая сила занесла** — Адкуль цябе чэрці прыгналі?

**Ни рыба ни мясо** — Ні Богу свечка ні чорту качарга.

**Ни свет ни заря** — Яшчэ і певень воч не пралупіў.

**Ободрать (обчистить) как липку** — Абабраць да ніткі.

**Один на один** — З вока на вока.

**Отдать концы** — Хвост адкінуць.— Ногі працягнуць.

**Отколоть номер** — Коніка выкінуць.

**Откуда ни возьмись** — Як раптам.

**От чистого сердца** — Ад душы.

**Палец о палец не ударит** — І пальцам не варухнуць.— Пальцам аб палец не вытнуць.

**Пара пустяков** — І займацца няма чаго.— Як раз плюнуць.

**Парень хоть куда** — Хлопец гвозд, трубою хвост.— Спраўны хлопец.— Такі ўжо ў крапіву голы не залезе.

**Первый попавшийся (встречный)** — Хто пад руку трапіў.

# Гук-пярэварацень

*(Заканчэнне. Пачатак у № 23, 25).*

Прыстаўны [в] існуе таксама і ў расійскай ды ўкраінскай мовах, але непараўнальна часцей спатыкаем яго ў беларускай. Тут ён, на думку Я. Карскага, пануе: з'яўляецца перад кожным пачатковым *о*, *а*, іншым разам і перад *у* можа развіцца нескладовае [ў]. Гэтая з'ява занатавана ў беларускіх пісьмовых помніках XV стагоддзя: *волторя* (алтара) у Рукапісным зборніку, *да водного* (да аднаго) ды *вучинить* у летапісе Аўрамкі.

Няма чаго і казаць, што шмат такіх прыкладаў знайшоў Я. Карскі ў зборніках беларускага фальклору, што былі выдадзены ў XIX стагоддзі: *вулка, вокном, ўот, ўосінь, у вадно вуха, ўучыць*. Асабліва цікавыя запісы зрабілі польскія вучоныя М. Федароўскі ды Э. Кліх, якія даследавалі гаворкі Навагрудчыны: *вўоспа, ўоспа, ўоздзека, наўучае, ўукінуць, ня ўумею, німа ўу хаце...*

Я. Карскі падае шмат прыкладаў з'яўлення [в] у сярэдзіне слова: *павук, наповаці* (напаіць), *цівун, суравешка* (сыраежка), *заповін* (запоін).

Нельга не згадаць яшчэ некаторыя іншыя асаблівасці гэтага гука.

Пераход [в] у [г]. Е. Раманаў на Гомельшчыне, а П. Шэйн паблізу Оршы пачулі словы *ягор, зялёны ягор* (явар). На Навагрудчыне ж кажуць *гарабей* (верабей). У гэтым жа старажытным кутку нашай зямлі найболей часта спатыкаецца [й] на месцы [в]: *япрук, йепрука, йербы* (вербы), *йербалазовы*.

Пераход [в] у [б], як, прыкладам, у словах *бладаць* (валодаць), якое запісаў І. Насовіч, ды *вядбвабного* (з Навагрудчыны) замест ядвабнага.

Пераход [в] у [м] у слове *раздумаць* (пад уздзеяннем формы *дму*) і *выдумаць* (выдуваць), а таксама ў дзеепрыслоўным суфіксе *-мш-* (замест *-вш-*): *запалёмшы, помалёмшысь, узямшы, ўехамшы*, што характэрна для гаворак Віцебшчыны.

А, прыкладам, пераход [в] у [р] Я. Карскі палічыў уяўным, хаця слова *скрозь* (расійскае *сквозь*) можна пачуць на Беларусі паўсюдна. Дарэчы, яно было вядома ўжо пісцам, якія ў XII стагоддзі пісалі Супрасльскі рукапіс. Гэтак жа паставіўся наш славуты лінгвіст і да пераходу [в] у [л] у вядомых (занатаваных) з першай паловы XV стагоддзя словах: *ослобожаем, выслободили, слободя, выслобонил*.

## Кароткі слоўнік эканомікі

БАЗІСНАЯ ЦАНА (базіс — ад грэчаскага «аснова»). У нядаўнім СССР то была вызначаная загадным спосабам цана, якая прымалася за аснову пры вылічэнні індэксаў (адносных велічынь, якія колькасна характарызуюць дынаміку сукупнасці), што паказвалі рух вытворчасці і іншых эканамічных дасягненняў. У краінах з нармальнай рыначнай эканомікай — то цана тавару з папярэдне вядомымі ўласцівасцямі (фіксіраванымі параметрамі): памерам, спецыфікай, хімічным саставам, якія абавязкова пазначаюцца ў прэйскурантах ці даведніках. Калі ж заказваюцца тавары, якія па параметрах адрозніваюцца ад базісных, то прымяняюцца розныя надбаўкі ці наадварот — скідкі і г. д. Нават пры змяненні кан'юнктуры (канкрэтных умоў у часе) рынку, Б. Ц. захоўвае, як правіла, стабільнасць, мяняюцца толькі надбаўкі ці скідкі. Асабліва гэта характэрна для міжнароднага гандлю салідных фірм.

Дарэчы, адчуваючы, што беларускія бізнесмены ўсё больш упэўнена пачынаюць наладжваць сувязі з замежжам, выдавецтва «Вышэйшая школа» выпусціла адпаведны слоўнік-даведнік. На жаль, тыя, хто яго складаў, на беларускай мове далі толькі знешнеэканамічныя тэрміны, а вось іх тлумачэнне — па-расійску. Праўда, ёсць і прыемны сюрпрыз. У раздзеле «Асноўныя клішэ дзелавога пісьма» тэксты паказаны на трох мовах — англійскай, расійскай, канешне, але і беларускай таксама. Прагрэс.

*Сто слоў*

# Азярод

У цэнтральнай Беларусі даўней вельмі часта можна было ўбачыць збудаванні з слупоў і жэрдак, што нагадвалі высокі плот. Дзе-нідзе такое прыстасаванне для сушкі снапоў, травы, бульбоўніку нават называлі пераплотам. Але нашы продкі прыдумалі таксама і асобную назву — *азярод*. Азярод ставілі толькі ў адпаведным месцы, пераважна паблізу гумна. Вось, прыкладам, у інвентары канца XVII стагоддзя маёнтка Смаргонь чытаем: «Фальварак агароджаны жэрдкамі. Азярод з 11 праслаў з падпоркамі». У другім жа фальварку «на гумнішчы 19 азяродаў у добрым стане з падпоркамі».

Наколькі шырока выкарыстоўваліся азяроды, можна меркаваць хоць бы са слоў *азярэдзіць* ды *залаз*, пададзеных М. Шатэрнікам у «Краёвым слоўніку Чэрвеншчыны». Першае азначала «ўтыкаць снапы ў прасла азярода для сушкі», а другое — «неакрэсленую колькасць снапоў, павешаных у азяродзе, прыблізна 4—5 снапоў».

Беларускія мовазнаўцы схільны лічыць азярод старым запазычаннем з балтыйскіх моў. Але ўжо тое, што гэтае беларускае слова трапіла ў спіс уласнабеларускіх слоў, уключаных у праславянскі слоўнік, сведчыць: некаторыя лінгвісты мяркуюць інакш. У праславянскай мове было дыялектнае *зераме*, утворанае ад *зердмен* — агароджа. Адсюль і *зорд, зарод*, звязаныя паводле паходжання з «жэрдкай» і «горадам».

**П. ПАШКАВЕЦ.**

*ДА 110-годдзя Янкі КУПАЛЫ*

# ПЯСНЯР ЗЯМЛІ БЕЛАРУСКАЙ

7 ліпеня споўнілася 110 гадоў з дня нараджэння беларускага песняра, класіка нацыянальнай літаратуры, першага народнага паэта Беларусі, драматурга, публіцыста, грамадскага дзеяча, акадэміка АН Беларусі Янкі Купалы (Луцэвіча Івана Дамінікавіча) — 1882—1942 гг.

Нарадзіўшыся ў фальварку Вязынка, у сям'і арандатара, з ранняга дзяцінства пазнаёміўся з катаржнай працай батрака на панскай ніве, з працай чорнарабочага, хатняга настаўніка. Не маючы магчымасці, каб грунтоўна вучыцца, ён праходзіў суровую школу жыцця. Пад уплывам твораў А. Міцкевіча, Л. Кандратовіча, С. Выспянскага, М. Канапніцкай Янка Купала пачынае пісаць свае першыя вершы на польскай мове. А пазнаёміўшыся з творчасцю Ф. Багушэвіча, В. Дуніна-Марцінкевіча, ён аддае перавагу беларускай мове, і ў 1904 годзе з-пад яго пяра з'яўляецца першы беларускі верш «Мая доля». Неўзабаве з друку выходзяць зборнікі паэта «Жалейка», «Гусляр», «Шляхам жыцця». Сярод твораў вылучаюцца «Адвечная песня», «Сон на кургане», «Бандароўна», «Магіла льва», «Раскіданае гняздо», «Курган», «Яна і я», камедыя «Паўлінка».

Маладосць Янкі Купалы прайшла ў Вільні, Пецярбургу, Маскве. Працуе паэт у Беларускім выдавецкім таварыстве і ў рэдакцыі «Нашай нівы». У 1916 годзе яго прызываюць у войска, ён служыць у Менску, Полацку, Смаленску. З 1919 года жыве ў Менску. Удзельнічае ў стварэнні БДУ, АН Беларусі, нацыянальнага тэатра, выдавецтваў, шмат працуе над новымі творамі.

Творы Янкі Купалы вызначаюцца глыбіннай народнасцю, лірызмам і рамантычнасцю, фальклорным каларытам. Паэт стварыў у беларускай літаратуры вобраз маладой Беларусі, ён стаў адным з заснавальнікаў беларускай любоўнай і пейзажнай лірыкі. У драматургіі Купала паспяхова працаваў над стварэннем нацыянальнай камедыі і драмы. Паэту належаць пераклады на беларускую мову «Слова аб палку Ігаравым», твораў польскіх, рускіх, украінскіх паэтаў. Шмат Купала напісаў і для дзяцей.

У сувязі з дваццацігоддзем літаратурнай дзейнасці ў 1925 годзе Янку Купалу было прысвоена званне народнага паэта Беларусі.

У Айчынную вайну Купала знаходзіўся ў Маскве, дзе трагічна загінуў у 1942 годзе. У 1962 годзе урна з прахам паэта перавезена ў Менск і пахавана на Вайсковых могілках.

Імя Янкі Купалы — адно з самых яркіх у беларускай літаратуры, а творчасць паэта і сёння служыць адраджэнню беларушчыны.

---

### ВОРАГАМ БЕЛАРУШЧЫНЫ

*Чаго вам хочацца, панове?*
*Які вас выклікаў прымус*
*Забіць трывогу аб той мове,*
*Якой азваўся беларус?*

*Чаму вам дзіка яго мова?*
*Паверце, вашай ён не ўкраў,*
*Сваё ён толькі ўспомніў слова,*
*З якім радзіўся, падрастаў.*

*Цяпер і вы загаварылі*
*З апекай выйшлі, як з зямлі;*
*А што ж дагэтуль вы рабілі?*
*А дзе ж дагэтуль вы былі?*

*Ваш брат і цёмны, і галодны;*
*Хацінка свой зжывае век;*
*І век не знаў ён дум свабодных,*
*І крыўдзіў свой брат — чалавек.*

*Вам страшна нашай слёзнай песні*
*І жальбы страшна вам глухой?*
*Вам жудка сонца напрадвесні?*
*Мілей вам холад з цемнатой?*

*А што ж вам беларус такога*
*Пасмеў зрабіць, пасмеў сказаць?*
*Эх, трэба ўчыць яшчэ вас многа,*
*Як свайго брата шанаваць!*

*Эх, кіньце крыўдамі карміцца, —*
*Кожны народ сам сабе пан;*
*І беларус можа змясціцца*
*У сям'і нялічанай славян!*

*Напасцю, лаянкай напраснай*
*Грудзей не варта мазаліць!*
*Не пагасіць вам праўды яснай:*
*Жыў беларус і будзе жыць!*

*Не столькі «хамскія» натуры*
*На карках вынеслі сваіх!*
*І свіст даносчыкаў пануры,*
*Паверце, не запудзіць іх!*

*К свабодзе, роўнасці і знанню*
*Мы працярэбім сабе след!*
*І будзе ўнукаў панаванне*
*Там, дзе сягоння плача дзед!*

*1907 г.*

### СВАЯКІ

*Раз абселі Беларуса*
*Маскалі ды Ляхі*
*І давай яму сваяцтва*
*Тыкаці з-пад пахі:*

*— Ты мой ісцінны браточак! —*
*Маскалёк бармоча;*
*— Ты мой хрэснік, мой сыночак! —*
*Юда-Лях сакоча.*

*Беларус жа ім на тое:*
*— Сваякі мае вы:*
*Смачны жолуд вам на каву,*
*Ды высока дрэва!*

### ГРУГАНЫ

*Адзін з захаду груган,*
*А другі з усходу*
*Прыляцелі на сяло,*
*На чужую шкоду*

*І давай паміж сабой*
*Гутарыць, хваліцца:*
*— Круму! Круму! Што за рай!*
*Ёсць чым пажывіцца!*

*Дасюль елі мерцвякоў,*
*А цяпер затое*
*Будзем піць мы кроў жывых,*
*Мяса есць жывое!*

### ЖНІВО

*Наспелая постаць шчаслівых пасеваў*
*За вёскай, на сонным лясоў рубяжы*
*Ссівелы ўжо колас схінула к мяжы*
*У сумным пытанні: дзе, жнеі мае вы?*

*І жнеі сышліся. Направа, налева,*
*Кладучы ў снапы каласы-старажы,*
*Зашасталі глуха сярпы, як нажы,*
*Пад жніўныя вечна старыя напевы.*

*Спагадная-нудная песня плыве,*
*Губляючы ў пушчы свае пералівы,*
*У шэлестах белага коласа нівы.*

*Плыве гэта песня ка мне і заве*
*І ў сэрцы звініць, як каса у траве:*
*«Ты так жа, брат, сееш... а дзе тваё жніва?»*

---

*Алег БЕМБЕЛЬ*

# З «падпольнай» кнігі

*(Працяг. Пачатак у №№ 5—26).*

Многія людзі звычайна казалі: — А дзе яе вывучыш, тую мову? Хто правільна на ёй размаўляе? І дзе? Мы яе нідзе не чуем; дык ад каго ж нам вучыцца?

— А для гэтага вось вам і трэба набыць кнігі на беларускай мове і чытаць іх. Трэба самому пачаць размаўляць на беларускай мове, няхай сабе і не зусім літаратурнай. Калі вы будзеце звяртацца да субяседніка на беларускай мове, няўжо ж ніхто вам не адкажа таксама на беларускай? Вось так, паступова і вывучыце яе. Толькі так — размаўляючы. Бо пры размове і ўспамінаецца нешта забытае, а чаго граха таіць, мы ж усе амаль тут з вёскі... — Такім быў мой адказ.

Многія пагаджаліся са мною, дзякавалі і, усміхаючыся, пакідалі нашу кнігарню з завярэннем, што яны будуць сюды прыходзіць, будуць чытаць кнігі і размаўляць на беларускай мове, бо сапраўды яна прыгожая, родная.

Заходзяць у нашу кнігарню, а менавіта ў аддзел беларускай літаратуры, і іншыя людзі. Людзі, якія добра ведаюць беларускую мову, добра і цікава на ёй размаўляюць. Амаль усе яны пастаянныя пакупнікі, пастаянныя наведвальнікі. Многіх з іх я ведаю дзесяткі гадоў. Людзі розных прафесій, розных узростаў, але яднае іх адно — любоў да сваёй мовы, да кнігі, да чалавека.

Гэтыя людзі вельмі цікавыя субяседнікі. Яны многа ведаюць, бо не абмежавалі веды свае толькі рамкамі вузкай сваёй спецыяльнасці. Не. Яны многа чыталі, многа вандравалі, многа людзей — дзякуючы сваёй эрудыцыі, культуры, дзякуючы ведам сваім і, галоўнае, веданню роднай мовы — яны сустрэлі і сустракаюць у жыцці.

А таму вывад з усяго гэтага адзіны — **мова наша — гэта наша культура,** нашы веды, нашы сустрэчы з цікавымі людзьмі, нашы сябры ў жыцці паўсядзённым. Нашы мары, нашы надзеі. Ёсць мова — ёсць сонца, ёсць радасць.

Няма мовы — і няма чалавека. Бо не чалавек той, хто не мае сябра, не мае мары, не мае песні...

Тое, што многія беларусы добра ведаюць рускую мову — чытаюць, размаўляюць на ёй — лічу справай добрай. Дрэнна тут толькі тое, што беларускую яны ведаюць альбо вельмі слаба, альбо не ведаюць зусім.

У нас вельмі гасцінная краіна. І прыязджаюць да нас часта на пастаяннае ці часовае жыхарства людзі, якія выказваюць жаданне ведаць здабыткі нашай беларускай літаратуры ў арыгінале, а не ў перакладзе, — ведаць так, як мы ведаем рускую. Таму, мабыць, трэба было б стварыць нейкія гурткі, курсы па вывучэнню беларускай мовы (ёсць жа такія па вывучэнню замежных моў). Туды пайшлі б і беларусы, якія ў сталым узросце жадаюць вывучыць мову, і іншыя, якіх яна цікавіць.

Памыляюцца аўтары кніг (ці то проза, ці паэзія), якія мяркуюць, што вось калі б яны выдалі свой твор на рускай мове, яго чыталі б усе. Таленавітыя, цікавыя кнігі людзі заўсёды пытаюцца на той мове, на якой піша аўтар, і калі ён беларус, то яны і хочуць ведаць яго як беларуса. Слабыя ў мастацкім сэнсе творы і на рускай мове не карыстаюцца попытам. Вывад з гэтага той — што трэба ўзбагачаць літаратуру не толькі моваю, але і зместам данага твора. Ад гэтага і будзе карысць мове і чалавеку, які гэты твор набудзе і прачытае. І калі кніга цікавая, то ён і сябру дасць яе прачытаць, і суседзям, і таварышам на працы. Гэтым і выкажа падзяку аўтару — папулярызуючы яго. **(Паміж 30 і 40, беларус, мовазнавец)**.

...У сілу розных сацыяльных фактараў грамадскія функцыі беларускай мовы звузіліся. Больш дакладней было б сказаць: адбылося пераразмеркаванне грамадскіх функцый паміж рускай і беларускай мовамі, якія ўжываюцца на тэрыторыі Беларусі на роўных правах. Тое, што многія беларусы размаўляюць на рускай мове, не сведчыць аб тым, што беларуская мова горшая: дрэнных моў наогул няма. Гэта, відаць, адбываецца таму, што беларуская мова з усіх моў народаў СССР найбольш блізкая да рускай. А пераход на рускую мову абумоўлены ўсеагульнасцю апошняй як сродку зносін на ўсёй тэрыторыі Савецкага Саюза. І таму на ёй можна ва ўмовах шматнацыянальнага горада звяртацца да кожнага чалавека, не ведаючы яго нацыянальнай прыналежнасці. І таму заканамерна, што беларус у горадзе з незнаёмым чалавекам гаворыць па-руску. Я назіраў масу выпадкаў у Мінску, калі прадстаўнікі адной і той жа сацыяльнай групы гаварылі паміж сабой па-беларуску ці на той гаворцы, якую яны ведаюць з дзяцінства. Значыць, выбар мовы для зносін залежыць ад сітуацыі. Дарэчы, няведанне беларускай мовы вельмі часта не спалучаецца з веданнем на неабходным узроўні рускай мовы. І чалавеку, які адкрыта выракаецца роднай мовы, лепшым контрдовадам будзе ўказаць на такія шэдэўры ў яго «рускай» гаворцы, як «учара», «приехал у чацьверг», «трэбует», «на этой улицы» і інш. (лексіка ў ягонай гаворцы — руская, а фанетыка — беларуская)... Ён не хоча ведаць беларускую мову не таму, што яна дрэнная, а таму, што ён наогул мала што хоча ведаць...

*(Працяг будзе).*

*Уолтэр МЭКІН*

# ЗЯЛЁНЫЯ ЎЗГОРКІ

(Апавяданне)

***Уолтэр Мэкін — сучасны ірландскі пісьменнік. У сваіх апавяданнях ён паказвае жыццё простых людзей Ірландыі.***

— Якая карысць плакаць? — спытаўся ён.

— Ад слёз блішчаць вочы,— адказала яна.

— І робяцца чырвонымі і непрыгожымі.

— Яны мае, і што хачу, тое і раблю з імі. Некаторы час памаўчалі.

Яны сядзелі амаль на самай вяршыні зялёнага ўзгорка. Унізе, направа ад іх, ляжала вёска, а там, за ёю,— маўклівае мора, ціхае і спакойнае, як прыемны сон. Чырвонае сонца вось-вось акунецца ў мора. Здавалася, яшчэ імгненне — і яно зашыпіць. А злева — у небе вісеў серп маладзіка, гатовага кінуць сонцу свой слабы, але смелы выклік.

Быў цёплы вечар. Хлопец амаль ляжаў, абапёршыся на локаць, задуменна перабіраў рукой завялыя кветкі верасу і ленавата адрываў іх сваімі моцнымі, загарэлымі пальцамі.

— Адсюль вёска выдае прыгожай,— сказаў ён.

То была праўда. Вёска выглядала невялічкай. Усяго шэсць хат, усе новыя, пабудаваныя за апошнія некалькі год. Некаторыя былі абліцаваны белым тынкам, другія — проста пабелены вапнай. Правільнай дугой яны абступалі прычал. Пасярэдзіне вёскі стаяла школа. Туды кожную нядзелю з таго боку заліва прыязджаў свяшчэннік служыць абедню. Было прыгожа. На жоўтым пяску ляжалі чатыры лодкі, а з-за дальняга канца прычала падымалася, аздобленая гірляндай снасцей, мачта рыбацкага судна.

Ён і яна забраліся высока. Недзе непадалёку ад іх, за выступам узгорка, уніз, да мора, бег ручай. Цяпер ён быў не вельмі імклівы. Каб закіпець, яму не хапала дажджу. Але калі добра прыслухацца, можна было пачуць, як ён цурчыць.

— Прыгожае месца,— сказала яна.— Ты, мусіць, доўга будзеш яго помніць.

— Прыгожае,— адказаў ён.— Гэтую вёсачку я, напэўна, доўга не забуду. Але ж на свеце павінны быць і другія такія ж прыгожыя мясціны.

— Ты сапраўды гэтак думаеш ці гаворыш проста так, бо пачынаеш ужо сумаваць?

Яна сядзела да яго спінай, апусціўшы на грудзі галаву. Прыгожая, пругкая спіна і тонкая талія. Яе каштанавыя валасы сям-там выцвілі ад сонца. Для зручнасці яны былі коратка падстрыжаны. Ён ведаў яе твар. Шырокі і прыгожы, з правільнымі рысамі, рашучы. Так, рашучы. Рашучыя бровы і невялічкі нос, падбародак з прыпухлымі, нібы надзьмутымі, вуснамі. Вочы на дзіва блакітныя, строгія, але часам і ласкавыя.

— Не,— сказаў ён,— я не сумую. Я ж і раней выязджаў адсюль.

— Але цяпер ты ўжо назад не вернешся.

— Сам не ведаю. Можа і вярнуся. А можа і не. Калі ж вярнуся, у мяне ў кішэні будуць грошы, і я буду іх траціць, колькі захачу, а потым зноў паеду, і тады ўжо ты паедзеш са мной.

— Не, не паеду.

— Чаму? — спытаўся ён.

— Мы ўжо аб усім гэтым не раз гаварылі. Навошта, Дэры?

— Якое ліха трымае цябе ў гэтай вёсцы? — спытаўся ён, нецярпліва ўзмахнуўшы рукой.

— Проста я люблю яе, вось і ўсё. Разумееш? Я яе проста люблю. Люблю тое, што ў нас ёсць, і не думаю, каб дзе-небудзь было так, як у нас.

— Адкуль ты ведаеш? Як жа ты можаш так гаварыць, калі не бачыла яшчэ іншых мясцін? Можа, ты задаволішся тым, што пражывеш увесь свой век тут, састарышся, а потым памрэш, ніколі нідзе не пабыўшы?

— Ага,— адказала яна.

— Ну, а я дык не! — сказаў ён рашуча.— Вось ты гаворыш пра нашы зялёныя ўзгоркі, быццам нідзе на свеце такіх няма. А яны ёсць. Я бачыў іх. Я бачыў такія зялёныя ўзгоркі... Што нашы ў параўнанні з імі?!.— Ён устаў, нахіліўся да яе, узяў за руку і прыцягнуў да сябе. Ён быў высокі і глядзеў на яе зверху ўніз. Яна глянула яму ў вочы.

— Ці ж не гаварыў я табе, што пачырванеюць вочы? Вось і пачырванелі. Паслухай, Марта, мы разыходзімся толькі ў адным. Ты хочаш застацца тут, а я хачу адсюль паехаць. Вось адзінае, што ляжыць паміж намі. Аднаму з нас прыйдзецца саступіць. Мы ведаем, што значыць не быць разам. Вось убачыш, калі я вярнуся па цябе, ты забудзеш пра свае зялёныя ўзгоркі.

— Паміж намі існуе нешта большае,— сказала яна, зазіраючы ў яго неспакойныя вочы,— ты страшэнна любіш славу. Вось што падзяляе нас. Хіба ж нельга дабіцца чаго-небудзь тут? Чаму дзеля гэтага абавязкова трэба ехаць кудысьці за тры тысячы міль?

—— Тут? А што тут ёсць? — спытаўся ён, адхіліўшыся ад яе.— Нічога! Праца, праца, праца... А што за яе атрымліваеш? Ежу... У год можаш купіць сабе касцюм, веласіпед у растэрміноўку. Дзесяць міль язды ў кіно. Шэсць міль — на танцы. І гэта з году ў год... Зімой сумота... Рыбная лоўля, паляванне. А чаго дасягаем? Я гэтак больш не магу! Ты ведаеш, што будзе. Я выб'юся ў людзі. Тут з мяне даволі. А там я кім-небудзь стану. Вось убачыш!

— У тым вось і бяда,— сказала яна.— Я ведаю, што ты кім-небудзь станеш, але не ведаю, ці будзе табе ад гэтага лепш. «Шырокія плечы, коратка падстрыжаныя валасы, загарэлы твар і неспакойныя вочы... Ён, канешне, даб'ецца свайго». Ужо цяпер ён быў падобны на важнага гараджаніна: добра скроены двухбортны пінжак, белая сарочка, туфлі — усё гэта выглядала так недарэчна на камяністым схіле Конемарскага ўзгорка. Ён зноў падышоў да яе. Абняў яе сваімі моцнымі рукамі. На шчоках яна адчула яго дыханне.

— Ты перадумаеш, дзяўчынка мая,— сказаў ён.

«Я магу перадумаць у адно імгненне, калі стаю так блізка ад цябе»,— падумала яна.

— Ты не зможаш знішчыць нашых пачуццяў. Я пацярплю, пакуль не вярнуся назад, па цябе. Я вярнуся да цябе,— раз ужо не магу прымусіць цябе паехаць са мною цяпер. Толькі чакай мяне. Глядзі, не звязвайся з тымі хлопцамі, што ўнізе, бо я заб'ю іх, пабачыш. Ты чуеш?

— Чую.

Раптам да іх данёсся голас яго бацькі. Ён паднімаўся на ўзгорак і клікаў іх. Дэры моцна пацалаваў Марту. Яна прыхінулася бліжэй да яго. Ад думкі, што ён будзе без яе, у яго няроўна білася сэрца. Але няўрымслівасць зноў вярнулася да яго. Чатырохматорны самалёт, што ляціць над акіянам, пад ім — гіганцкі кантынент, які чакае свайго заваёўніка — Дэры О'Фліна. Так, ён заваюе яго. Не такія людзі рабілі гэта: варта было ім толькі страсці з сябе інертнасць сваіх вёсак, як іх марудлівая ірландская кроў раптам пачынала бурліць і кіпець ад нястрымнага імкнення.

— Пакуль, бывай, дарагая,— сказаў Дэры.

— Бывай,— адказала яна, схіліўшы галаву ў яго на грудзях.

— А, вось вы дзе! — усклікнуў бацька, падыходзячы да іх сваім павольным, шырокім, развалістым крокам пастуха. Каб не яго спакойныя вочы, пры святле месяца бацьку можна было б зблытаць з сынам. Адкуль у Дэры такія вочы? У яго ж маці таксама вочы спакойныя.

— Там да нас зайшло некалькі чалавек,— сказаў бацька.— Пойдзем дадому.

— Я спушчуся да іх,— адказаў Дэры,— а ты прыйдзеш потым.— І ён пабег уніз, пераскокваючы, як козлік, з выступа на выступ, і ні разу не аступіўся. Яны сачылі, як ён паступова робіцца ўсё меншы і меншы.

— У яго многа энергіі,— прамовіў стары.

— У яго многа славалюбства,— сказала Марта і пачала спускацца. Стары глядзеў ёй услед. «Яна, напэўна, плача»,— падумаў ён. Ён ведаў, што маці Дэры цяпер таксама плача. Ён чамусьці спытаў сябе: «Што было б, калі б жаночыя слёзы сабраць разам,— усе слёзы ўсіх жанчын,— ці пацякуць яны ракой? А якая была каму карысць ад гэтых слёз? Хіба яны калі-небудзь змякчалі чыё-небудзь сэрца ці адхілялі мужчыну ад мэты? А калі і так, то ці прыводзіла гэта да дабра?»

— Цяпер у Амерыку ехаць — не тое, што бывала, калі я быў малады,— разважаў ён, ідучы з ёю поплеч.

Ён любаваўся Мартай. Яна спускалася з узгорка, як маладая лань.

— Цяпер зусім іншае,— згадзілася яна.

— Э-эх! Калі ў дні маёй маладосці ехалі ў Амерыку, то рыхтаваліся да гэтага ледзь не цэлы год. За пяцьдзесят міль навокал усе ведалі, што ты едзеш, і абавязкова прыходзілі пабачыць цябе перад ад'ездам і на развітанне праліць слязу або прынесці маленькі падарунак, ці які свяшчэнны талісман, што павінен аберагаць цябе ад усіх небяспек мора-акіяна, ці цёплую камізэльку. А цяпер... Ат, што там гаварыць!

— Цяпер усё робіцца хутка,— сказала Марта, усміхаючыся.— Туды ехаць толькі дванаццаць гадзін. Цяпер туды хутчэй дабярэшся, чым у Дублін.

— Усё цяпер неяк не так,— сказаў ён.— Э-эх! Бывала, перш чым яны паедуць, мы выплачам усе свае вочы і скачам і п'ём піва аж да першых пеўняў. А цяпер няма чаго шкадаваць людзей, да якіх толькі дванаццаць гадзін лёту. Усё роўна як у суседнім прыходзе.

— Вы будзеце сумаваць па Дэры,— сказала яна.

Ён уздрыгнуў.

— Ды не, не вельмі,— сказаў ён.— Праўду кажу. Няма часу. Да таго ж, Дэры заўсёды быў непаседай. Гэта ж ён едзе ўжо трэці раз. Два разы пабываў у Англіі. Заўсёды быў няўрымслівы. Сам не ведаю, у каго ён такі ўдаўся. Іншы раз я гавару жонцы: што за ёй, напэўна, невідочна валачыўся які-небудзь бадзяга.— Ён ухмыльнуўся.— Табе трэ было б паехаць з ім, Марта,— сказаў ён мякка.— Ён вельмі любіць цябе.

— І я яго таксама,— адказала яна.— Але я люблю і сваю вёску. Ён мог бы даць волю сваім імкненням і тут, дома. Мяне няцяжка ўгаварыць паехаць з ім, але будзе лепш, калі не паеду.

— Я ведаю яго, ён прыедзе па цябе.

— Магчыма, да таго часу я стану не такой, ці, можа, ён пераменіцца. А цяпер няхай робіць, як яму здаецца лепш, і ён заваюе зялёныя ўзгоркі Амерыкі.

— Ты зойдзеш да нас? — спытаўся стары, калі яны прыпыніліся на вуліцы.— Некалькі яго сяброў, і некалькі бутэлек моцнага піва, і трохі спеваў. Э-эх! Усё гэта — цень тае ўрачыстасці, што была даўней...

— Я пайду дадому,— сказала яна.— Мы сказалі ўжо адно аднаму ўсё, што было трэба. Мы ўбачымся з ім, калі ён вернецца дадому.

— Ну, як хочаш. Дабранач, дачушка. Блаславі цябе Бог!

Бацька глядзеў ёй услед. Яна ішла павольна, апусціўшы галаву. Адну руку залажыла за спіну, трымаючы ёю за локаць другой. Кончыкам чаравіка яна адкідвала з дарогі маленькія каменьчыкі. Бацька ўздыхнуў і павярнуўся ў бок дома. Там было ціха. Гэта чамусьці засмуціла яго. Уголас ён сказаў сам сабе: «Э-эх! Многа гадоў назад ад гоману і шуму з гэтага дома зваліўся б дах!» — і ўвайшоў у хату.

Дэры прыехаў да Марты праз год, амаль дзень у дзень. Але ён прыехаў не адзін. Яго суправаджалі два амерыканскія сяржанты і стралковы ўзвод салдат, і на яго труне ляжаў амерыканскі флаг, а бацька яго атрымаў медаль, якім быў узнагароджаны Дэры за храбрасць у нейкай чужой вайне. Яго пахавалі на невялічкіх могілках на палавіне дарогі ўверх па схіле зялёнага ўзгорка, каля самага ручая, што кіпіць пасля дажджу і ледзь чутна цурчыць, калі мелкі.

І адсюль, калі б вы сталі ля яго магілы, каб пакласці ў шкляны збан свежыя кветкі, перад вашымі вачыма паўстала б шырокая прастора акіяна, і калі вы добра бачыце і ў вас ёсць хоць крыху фантазіі, то недзе там, за многа, многа міль, на другім канцы свету, вы заўважыце зялёныя ўзгоркі...

**Пераклад з англійскай мовы
С. ДОРСКАГА.**



# Памяці Багдановіча



Памятны знак устаноўлены каля дома на вуліцы Рабкораўскай у Менску, дзе правёў апошнія дні на беларускай зямлі і напісаў сваю бессмяротную «Пагоню» Максім Багдановіч.

Скульптар Уладзімір Слабодчыкаў і архітэктар Уладзімір Зелянковіч стварылі знак у выглядзе прыдарожнай каплічкі. І гэта сімвалічна: як вандроўнік становіцца перад ёй на калені, так і мы, землякі паэта схіляем галовы перад песняром.

**НА ЗДЫМКУ:** кветкі паэту.

**Фота Яўгена КАЗЮЛІ. (БелТА).**




***Працягваем друкаваць рэцэпты па мёдалячэнні.***

**1.** 1 сталовую лыжку сухіх ягад шыпшыны заліць 2 шклянкамі кіпеню, кіпяціць 10 мінут (можна ягады настойваць у тэрмасе). Калі напар астыне, працадзіць і прымаць па 0,5 шклянкі 2—3 разы на дзень з мёдам. Напітак захоўваць у слоіку з накрыўкай. (Для ўмацавання сардэчнай мышцы.)

**2.** Пры захворваннях сасудаў (эндартэрыіт, варыкознае расшырэнне вен), ішэмічнай хваробе сэрца карысны мёд з часнаком. 200 г абабранага, патоўчанага часнаку заліць 350 г мёду, добра перамяшаць і настойваць на працягу тыдня. Прымаць па 1 сталовай лыжцы за 40 мінут да яды 3 разы на дзень на працягу 1—2 месяцаў.

**3.** Пры атэрасклерозе сок цыбулі змяшаць з мёдам у прапорцыі 1:1, прымаць 2—3 разы на дзень па сталовай лыжцы.

**4.** Пры захворваннях печані, жоўцевага пузыра, селязёнкі змяшаць 1 шклянку мёду са шклянкай соку чорнай рэдзькі, прымаць 3 разы на дзень па 0,5 шклянкі.

Сумесь пры сістэматычным ужыванні папярэджвае ўтварэнне камянёў у жоўцевым пузыры, павышае гемаглабін у печані, паляпшае працэсы тканкавага абмену, спрыяе працэсам стрававання.

**5.** Пры апёках або абмарожванні выціснуць у місачку крыху крэму (дзіцячага, для рук або якога-небудзь іншага), дабавіць 1 мл (1 ампулу) экстракту алоэ, 1 мл настою зверабою на шклянку вады і 0,5 чайнай лыжкі мёду. Дабавіць шчопці пшанічнай мукі, усё добра перамяшаць. Змазваць пашкоджаную паверхню 2—3 разы на дзень. Ужываецца як першая дапамога пры I — II ступенях апёку і пры абмарожванні твару.

*Алесь МАСАРЭНКА*

## Шпількі

* * *

Да мужа, старэйшага за сябе:

— А я даўно з табою, затлу́май, не ў радасць жыву... Сышоў бы куды ў прочкі ці прыстаў бы да якой векавухі-равесніцы ў прымы...

— Цярпі мяне такога, які ёсць... Яшчэ колькі гадкоў пажыву. А памру, дык не ў тваю ж ямку лягу, а ў сваю, Богам адпушчаную.

* * *

Пра кінастудыю «Беларусьфільм»:

— Дзе сава і сыч, туды носа не тыч.

* * *

— Я ж не ўмела ні ўчыняць, ні гнаць гарэлку... Учыніла ў бочцы, а яна з-пад гуркоў была, прасоленая ўся. Брага й не выбрадзіла... Брыгадзір зайшоў за каня плату ўзяць. Дала яму першаку. Ён піў-піў, плюнуў дый кажа: «А нуце вас, цётка... Лепей вады выпіць, чымся саматужкі вашай».

* * *

— Ён і такі-сякі, ён і злодзей... А ён бярэ тое, што дрэнна ляжыць. Рукі ж яго да сябе гнуцца, а не ад сябе.

*Сяргей ГРАХОЎСКІ*

## Лінгвістычныя жарты

* * *

Не мінчане мы, а мінчукі,
Нас пакуль не многа, толькі кучка,
І прыпала да мае шчакі
Ужо не мінчанка, а м і н ч у ч к а.

* * *

Нас называлі некалі «сябры»
На сходах і узняўшы чаркі,
Цяпер чамусьці клічуць «спадары»,
Хоць і няма ніякай гаспадаркі.

* * *

На выстаўцы — партрэты і пейзажы,
Скульптурныя работы — злева, справа,
Іду па выстаўцы, а мне знаёмы кажа:
«У нас не выстаўка. То ёсць в ы с т а в а»

* * *

Я бягу на вечар з дому,
Сустракаецца дзяўчына.
Кажа: «Вечар — па-старому.
Трэба мовіць в е ч а р ы н а».

* * *

Творца меў адно жаданне,—
Пегаса ўхапіць за повад.
Стаў пісаць апавяданне,
А сяк-так зляпіў а п о в я д.

✦ *ПАРОДЫІ* ✦

*Антон ПРЫЦЭЛ*

## Удвух з Блокам

*Мне Блок прысніўся.*
*Ён ішоў адзін.*
*Адзін —*
*сярод вялікага натоўпу...*

**Мікола ФЕДЗЮКОВІЧ.**

Апошнім часам, як наўздзіў,
Чамусьці класікі мне сняцца.
Прысніўся Блок,
які адзін
Ўсё праз натоўп не мог прабрацца.
Злаваўся Блок
І хмурыў лоб,
Што час губляў такі гарачы,
І ўсё ўглядаўся у натоўп,
Пакуль у ім мяне не ўбачыў.
Павесялеў ажно:
— Глядзі,
І ты тут, Федзюковіч? Годзе
Мне аднаму цяпер хадзіць —
Давай удвух з табой паходзім...
І вось ідзём мы крок у крок,
Вядзём размову чынна, важна.
…то Федзюковіч з нас, хто — Блок,
…ба ў натоўпе тым заўважыш?




РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ
**Рэдактар Эрнэст Ялугін.**
**Сябры калегіі: Янка Брыль, Анатоль Бутэвіч, Ніл Гілевіч, Уладзімір Дамашэвіч, Алесь Камароўскі, Анатоль Клышка, Алег Куліцкі, Уладзімір Ламека, Уладзімір Содаль, Алесь Траяноўскі, Генадзь Тумаш, Яўген Цумараў, Генадзь Цыхун, Міхась Шавыркін.**
**Адказны сакратар Віктар Шніп.**

**Наш адрас: 220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.**
Тэлефон рэдакцыі: 33-17-83.
Аўтары надрукаваных матэрыялаў адказваюць за дакладнасць фактаў і іншых звестак. Пункт гледжання аўтара неабавязкова можа адпавядаць меркаванню рэдакцыі.
Рукапісы рэдакцыя не рэцэнзуе і назад не вяртае.
МВПА імя Якуба Коласа.
Мінская паліграфічная фабрыка «Чырвоная Зорка».
Наклад 6993 паасобнікі Зак. 1185. Індэкс 63865.